Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 12 Нядзеля 17 Чэрвеня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. || Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, || АБВІ

## Да культурна-асьветнае працы!

Аб значэньні асьветы для нас Беларусаў, адстаўшых у гэтым кірунку ад усіх заходня-культурных народаў, ня прыходзіцца шмат давадзіць. Даволі падкрэсьліць тое, што гэта ёсьць адзіны лёяльны і просты шлях да нацыянальнага адраджэньня, якое ня можа быць дасягнута без адначаснага вызваленьня ад духовае цемры, пануючай над намі. Вось дзеля чаго ў гэтым кірунку павінны быць напружаны усе нашы матэр'яльныя, фізычныя і духовыя высілкі.

Надходзіць новы вучэбны год, да якога робіцца падрыхтоўка нават у дзяржаўных колах. Віленскі Куратарыум запэўніў прадстаўнікам Галоўнае Управы Т-ва Бел. Школы, што з пачаткам нова-га вучэбнага году да беларускіх дзяржаўных пачаткавых школаў як істнуючых, гэтак і тых, якія будуць адчыняны, будуць прынімацца настаўнікі толькі добра ведаючыя беларускую мову. Гэткім чынам адчыняецца магчымасьць дзеяльнасьці на ніве сваей роднае культуры для беларускага кваліфікаванага настаўніцтва, якое з ліквідацыяй беларускіх школаў за часы ўрадаваньня Станіслава Грабскага і Вітаса прымушана было ісьці да польскіх школаў, ці зусім заставацца бяз працы.

Затым, як мы паведамлялі ў папярэднім нумары «Грамадзяніна», на 17 чэрвеня вызначана ў Наваградку агульнае паседжаньне краёвага аб'яднаньня сэнатараў і паслоў блёку супрацоўніцтва з Урадам з удзелам Віленскага і Наваградзкага Ваяводаў і Віленскага Куратара, на якім гэтак сама будуць абгаварывацца беларускія пытаньні і асабліва пытаньне аб беларускім школьніцтве.

Дык, як мы бачым, нават з боку сучасных урадовых колаў робяцца крокі ў кірунку направы тэй крыўды, якая была прычынена беларускай асьвеце папярэднімі ўрадамі. Але зусім зразумела, што шмат будзе залежыць і ад таго, у якой энэргіі выявіцца актыўнасьць самога беларускага грамадзянства. Калі мы ня зможам даказаць сваіх правоў на свае ўласныя школы, калі не змабілізуем усіх сваіх настаўніцкіх кадраў і ня выступім усе як адзін з жаданьнем адчыненьня ўрадовых беларускіх школаў, дык ніхто за нас не паруліцца.

Усе гэтыя пачынаньні ўрадовых колаў нават з добрымі замерамі могуць затрымацца на паўшляху, калі ня будуць падтрыманы з нашага боку.

Вось дзеля чаго, ўсе тыя, каму дарагая свая родная мова, свая нацыянальная культура, хацяб пакуль і заняпалая і дум-

ка аб нацыянальнай незалежнасьці ў будучым, павінны цяпер-жа, не адкладаючы ні на хвілю, прыступіць да працы ў гэтым кірунку. Надходзячы вучэбны год не павінен нас застаць зьненацку. Інакш уся адказнасьць перад нашым падрастаючым пакаленьнем ляжа толькі на нас, што мы ня споўнілі свайго абавязку перад ім, ня выкарыстаўшы тых магчымасьцяў, якія дае нам сучасны момант.

Дык да працы ўва ўсіх галінах культурна-асьветнага жыцьця!

# Беларусы у Латвії.

## Беларусы ў Латвіі.

У Рызе ў пачатку чэрвеня г. г. адбылася першая пэдагагічная канфэрэнцыя беларускіх настаўнікаў, скліканая беларускім аддзелам Міністэрства Асьветы.

Канфэрэнцыю адчыніў уступнай мовай кіраўнік Беларускага Аддзелу п. Пігулеўскі, які ўказаў сабраўшымся, што канфэрэнцыя гэтая мае мэтай выключна чыста пэдагагічныя заданьні, і што ўсе яны запрошаны, каб узаемна абмяняцца думкамі аб патрэбах школы. Як раскінутыя па ўсіх далёкіх кутох Латвіі, каб маглі-бы азнаёміцца з новымі кірункамі і досьледамі ў галіне пэдагагічнай.

Прысутныя выканалі латвійскі і беларускі гімны. Пасьля быў прачытаны тым-жа п. В. Пігулеўскім рэфэрат аб гісторыі латышскай народнай школы, дзе ён ахарактэрызаваў той цярністы шлях гэтай нацыянальнай школы, які яна прайшла ад XIV стагодзьдзя да сучасных дзён, і па прыкладу якога цяпер могуць вучыцца ахоўваць і ўзмацняць сваю самабытнасьць і сучасныя меншынствы ў Латвіі.

Другі рэфэрат прачытаў Ю. Навасёлаў на тэму аб новых мэтодах і іх практычным зьдзейсьненьні ў школах.

Трэці рэфэрат быў прачытаны бышым дырэктарам Школьнай Управы Міністэрства Асьветы п. Рэйнісам-Лепінем на тэму „аб Школьнай Рэформе“. Будучы старшыней камісіі па школьнай рэформе у Латвіі, дакладчык у працягу 4 год змагаўся за гэныя рэформы і дзеля гэтага ягоны рэфэрат быў добра заабаснаваны і праслухаўся з цікавасьцю.

Канфэрэнцыя закончылася рэфэратам Б. Шалфеева па пытаньню аб гістарычнай сувязі беларусаў з Прыбалційскім Краем і ў прыватнасьці з Латвіяй. Даклад быў цікавы галоўным чынам вялікім лікам цытатаў з першакрынічнікаў, пачынаючы з летапісаў, гістарычных граматаў, царкоўных актаў, лацінскіх хронік і іншых дакумэнтаў, якія хаваюцца ў архівах.

Дакладчык праводзіў думку, што пачынаючы ад XI стагодзьдзя да XVII ўся каленізацыя па Дзьвіне ішла галоўным чынам з Полацку і што маецца яшчэ шмат нявыкарыстаных розных гістарычных дакумэнтаў, датыкаючых беларусоў, у латвійскіх архівах і ў кнігах лютэранскіх прыходаў у Зэмгаліі і Курляндыі.

Адначасова з настаўніцкім зьездам адбывалася паседжаньне Рады Бел. Аддзелу Мініст. Асьветы, на якім былі вырашаны патаньні аб школьным пляне і распрадзяленьня дапамог школам і культурна-асьветным белар. арганізацыям з сьродкаў аддзелу.

# З Усходняй Беларусі.

Газэта „Савецкая Беларусь“ у № 123 ад 30-га траўня разчыняе болькі ў галінах гаспадарчых і асьвятовых. Відаць, як ня імкнецца Савецкая ўлада, мо‘ на‘т і шчыра да таго, каб хаця-ж паступова адбудаваць тое, што сама зьнішчыла, але нічога не наладжваецца:— няма парадку, няма ні апарату, няма адпаведных працаўнікоў...

Вось наглядны артыкул „Стара-Барысаўскі гнойнік“:

„У 3-х вярстох ад г. Барысава ў прыгожай мясцовасьці ран. маёнтку Н. Нікалаевіча знаходзіцца сельска-гаспадарчы тэхнікум. У тэхнікуме з 96 слухачоў выхоўваюцца будучыя аграномы-будаўнікі культуры новае вёскі.

Надворны выгляд гаспадаркі нібы добры, але трэба толькі добра прыглядзецца і адусюль паняісе гноем, які накапіўся ў працягу некалькіх гадоў. Аб гэтым гаворыць шэраг фактаў: у 1925-26 г. г. на палёх тэхнікуму, якія павінны служыць паказальнікам, згніла капуста, маркоўка, ячмень і 12.000 пуд. караньплодаў і бульбы. Ранейшага загадчыка гаспадаркі аддалі пад суд, але ён уцёк у Пензу.

У 1926-27 г. г. пры гэтым-жа дырэктары, але пры новым загадчыку гаспадаркаю згніло 8 дзес. ячменю, 10 дзес. насеннае вікі, апрача таго сабраны авёс з 20 дзес. згніў, складзены ў кіпы.

Заглянуўшы на двор, любы савецкі гаспадарца мог-бы пазайздросьціць якасьці машын і сельска-гаспадарчых прыладаў, якія там маюцца, але, з прычыны нядбайнасьці, пуняў, няма і машыны круглы год ляжаць пад адкрытым небам, пакрыліся іржой і хутка будуць выключаны з інвэнтару тэхнікуму. Так, напр., стаіць пакрытая іржой касілка, потым жнярка, бароны і шмат інш. дарагіх прыладаў. Гэтая раскіданая гаспадарка тэхнікуму, як відаць, мала датычылася дырэктара, і ён павольна, але верна, ня спыняе яе разбураць. Пры тэхнікуме было балота, і дырэктар, шукаючы месца, куды-б карысна выкарыстаць грошы, зьвярнуў увагу на гэтае балота. Праз некатары час была зроблена землячарпалка, наняты рабочыя, якім плацілі па 10 руб. за выцягнуты куб ілу, у выніку чаго 1.000 руб. пахаваны на берагах гэтага возера, бо калі вада сьцякала, дык яна змывала выцягнуты іл. Але дырэктар на гэтым ня спыніўся. Задумаў адчыніць пры тэхнікуме

каўбасную. Каўбасная не працуе, усё абстаўляваньне валяецца на двары.

Пачынаецца пабудова маслабойні, але нейкія невядомыя прычыны перашкаджаюць, і яна спыніла сваё існаваньне. Потым па шкодніцкаму пляну дырэктара пачынаецца пабудова млына, якая цягнулася доўга, і калі скончылася, дык аказалася, што млын для працы не падыходзіць, і ў сучасны момант перабудоўваецца. З 1925 г. па сучасны момант наладжваецца канцарэзка і штогод да яе робяць рамы, якія ўвесь час валяюцца на двары і невядома, калі бадуць гатовы.

Наркомсветы даў сродкі на перабудову 2-хпавярховага дому пад школу. Спэцыяліста на работу не запрасілі, і калі работы былі скончаны, усе печкі разваліліся.

Пры тэхнікуме маецца паказальнае поле, якое знаходзіцца ў веданьні Наркомзему, але яго можна лічыць паказальным у сэнсе безгаспадарнасьці. У мінулым годзе з 20 дзесяцін 50 проц. выдзелена пад культырныя засевы. Засявалася толькі частка, авёс згніў".

А вось другі атрыкул „Сьпячка і Нядбайнасьць"—„грамадзкія работы ў гэтым сязоне разгарнуты слаба" і што „ня лепш справа і з будоўніцтвам" а як гэта выглядае дык вось:

„Водлуг пляну Наркомпрацы, на будоўнічых работах павінна быць у сярэднім занята ў красавіку 25,500 чал. і ў маі—38,168 чалавек беспрацоўных. Між тым біржамі працы па ўсей БССР было накіравана на работу ў красавіку 4317 чалавек і за першую палову мая ўсяго толькі 2,825 чалавек. Калі-ж да гэтага дабавіць яшчэ 100 пр. прынятых паміма Біржы Працы (што мала праўдзіва), дык усё-ж малюнак з разгортваньнем бядаўнічых работ вельмі няважны. К прыкладу, у Менску павінна было ўжо працаваць 5,000 чалавек, а працуе ўсяго толькі каля 1,400 чалавек.

Гэткае становішча з разгортваньнем будаўнічых работ, калі яно працягнецца і надалей, пагражае нашаму будоўніцтву тым, што ў канцы чэрвеня і ў ліпені яно застанецца без кваліфікаваных рабочых па асобных спэцыяльнасьцях".

Далей у артыкуле „ Хоць і унівэрсытэцкае, але... галавацяпства" выяўляецца, як абстаяць справы і з вышэйшай асьветай. Вось што яны пішуць:

„Штогод студэнцтва Бел. Дзярж. Унівэрсытэту прымушана вывучаць тыя ці іншыя галіны навукі, ня маючы пляну, бо праграмы, па якіх прафэсары чытаюць курс, прадстаўляюцца позна і студэнты маюць магчымасьць азнаёміцц з імі толькі ў канцы году.

Штогод студэнцтва скардзіцца на гэта, але скаргі застаюцца „гласом вопиющего в пустыне".

Цешыліся студэнты, што хоць сёлета будуць мець праграмы своячасова ды яшчэ друкаваныя і танныя, аднак, на гэтым ўсё і скончылася. Залікавая сэсія ў БДУ пачалася з 15 мая, а падрыхтоўка да яе значна раней, але праграм для пэдфаку яшчэ і зараз няма.

Да слова сказаць, на друкаваньне гэтых праграм патрачана 585 рублёў.

Некалькі слоў аб якасьці праграм. Сярод іншых вы знойдзеце праграму па курсу —„сучасная працоўная школа на Захадзе і ў Амэрыцы", а вось наконт працоўнай школы ў СССР, дык колькі вы ня шукайце, нічога ня знойдзеце, як быццам яе і няма. Яшчэ адзін цікавы момант: па курсу новай беларускай літаратуры раіцца для здачы заліку падручнік, які яшчэ ня вышаў у сьвет, а толькі друкуецца—вось і рыхтуйся па ім, як хочаш."

А ў артыкуле „Зусім ненармальнае зьявішча"—даюць абраз працы ў Бел. Дзяржаўным Мастацкім тэхнікуме, а ўласьне:

„Да гэтага часу, ня гледзячы на тое, што тэхнікум існуе ўжо 5 гадоў, ён ня мае цьвёрдай мэтавай устаноўкі: кожны год выпрацоўваюцца новыя навучныя пляны, якія то скарачаюць, то дапаўняюць асобныя дысцыпліны. Студэнцтва ня ведае, што будзе рабіць пасьля сканчэньня; яно ня бачыць сваёй пэрспэктывы, што стварае ўпадніцкі настрой і дрэнна адбіваецца на пасьпехах заняткаў.

Аўдуторый і габінэтаў зусім няма. Тэарытычныя заняткі праводзяцца ў тых-жа майстэрнях бяз мэбляў, і прыходзіцца сядзець на вокнах, скрынях і інш., а лекцыі запісываць на сьпінах сваіх суседзяў.

Ня ў лепшым становішчы знаходзіцца і тэхнікумаўскі інтэрнат: на плошчы ў 20 кв. саж. жывуць 58 чалавек.

Памешканьне гэтае вельмі вільготнае і наагул не адпавядае для жыцьця. Не хапае і абсталяваньня; напрыклад, адна табурэтка абслугоўвае 5—6 студэнтаў; няма пляваценьніц, хоць керамычная мастэрня сама іх выпрацоўвае.

Невялікая стыпэндыя таксама дзеліцца паміж 2—3, а іншы раз і 4-ма студэнтамі.

Навучальных прыладаў і літэратуры зусім мала; не хапае мальбэртаў, падставак і г. д.

Падручнікаў па грамадазнаўству ўсяго 10 штук на 123 студэнты; амаль зусім няма беларускай літэратуры. Не хапае таксама грошай на палатно і фарбы, у выніку чаго ня выконваецца навучальны плян".

„Савецкая Беларусь" № 118 ад 24 мая, у карэспандэнцыі з Жлобіна „Ня вучацца, а хуліганяць" піша:

„Такімі здольнасьцямі могуць сьмела ганарыцца жлобінскія школы, асабліва першая чугуначная дзевяцігодка. Там у старэйшых групах забастоўкі, як любімы мэтод, практыкуюцца ў тых выпадках, калі вучні ня хочуць выконваць праграмных заданьняў.

Напрыклад, вучні 9 групы адмовіліся пісаць кантрольную працу на беларускай мове. Група 7б адмовілася выконваць заданьне па грамадазнаўству. Адмовіліся ад пісьмовай працы на беларускай мове.

Апроч забастовак, вучні гэтай школы шырока практыкуюць хуліганства. На лекцыях

грамадазнаўства частка вучняў крычала. „Улада рабоча-сялянская, а кіруюць яўрэі. Пазыка добрахвотная, але прымусовая"!

З рэлігійнага боку справа стаіць таксама дрэнна. Аб гэтым можа сьведчыць той факт, што ў так званыя вялікодныя дні лік прысутных у клясах вучняў дайшоў да 55 проц. Атмасфэра сярод вучняў нездаровая.

З пералічаных фактаў відаць, што у жлобінскіх школах маюцца: хуліганства, антысэмытызм, рэлігійнасьць."

Як відаць адсюль, рэлігійнасьць пастаўлена побач з хуліганствам.

Вось што пішуць самі аб сабе бальшавіцкія дзеячы! І гэткім адкравенным „сама-бічаваньнем" яны займаюцца штодзённа, а справа ня толькі ня йдзе уперад, а наадварот. А здаецца часу было досыць?!

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Безрабоцьце зьменшаецца.

Дзяржаўны ўрад пасрэдніцтва працы падае, што ў мінуўшым годзе ў траўні месяцы агульны лік безработных складаў 174, 349 асобаў, а ў гэтым годзе—131,454 асобаў, зьменшыўшыся на 43,000.

### Саранча ў Польшчы.

З Быдгошчы на Паморі паведамляюць, што 9-га чэрвеня над палям'і праняслася цёмная хмара саранчы ў усходнім кірунку. Няпрывычны шум мільёнаў крыльяў перапужаў тамашняе насяленьне, якое схавалася па хатах. Але саранча ня прычыніла ніякай шкоды і паляцела далей.

### Польскія лётнікі перад палётам да Амэрыкі.

Падрыхтоўка польскіх пілётаў майёра Кубалі і Ідзікоўскага да пералёту над Атлянтычным акіянам з Францыі да Злучаных Штатаў прыходзіць к канцу. Дата старту з лётніцы ў Буржэ каля Парыжу вызначана на 20 чэрвеня, калі не зашкодзяць ад'емныя атмасфэрычныя варункі.

## ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Зьмена кабінэтаў у Нямеччыне.

У зьвязку з новымі выбарамі да рэйхстагу кабінэт Маркса падаўся да дымісыі. Фармаваньне новага кабінэта даручана лідэру сац.-дэмакратаў Гэрману Мюллер.

### Заява Вальдэмараса.

Вальдэмарас заявіў прадстаўнікам прэсы, што яшчэ ў гэтым месяцы зьбярэцца польска-літоўскія камісіі ў Коўні і Варшаве. Літва запрапанавала Польшчы склікаць у жніўні агульнае паседжаньне канфэрэнцыі ў Кэнігсбэргу. Затым заявіў, што літоўскі ўрад яшчэ ў гэтым годзе мае замер скасаваць у краі ваенны стан і ваенную цэнзуру. Апрача гэтага прадбачацца паважныя рэформы.

### Антыпольскія настроі у С. С. Р .Р.

Старшыня рады камісараў Украінскай Радавай Рэспублікі Чубар выгласіў у Харкаве рэзкую прамову, скіраваную проці Польшчы і Румыніі. Прамова гэта зрабіла ў Маскве няпрыемнае ўражаньне.

# Крыху аб тэатральнай справе.

(У парадку абгавараваньня).

12 лютага 1910 г. у Вільні адбыўся першы беларускі спэктакль. Пачынаючы ад гэтага часу, беларускія спэктаклі і вечарыны робяцца паважным фактарам у нашым адрадзжэнскім руху, здабываючы ўсё новыя і новыя куткі Беларусі, аж урэшце сёньня стаімо перад фактам нячуванае дагэтуль актыўнасьці беларускае вёскі ў чыста культурнай галіне нацыянальнага жыцьця, якой з'яўляецца перад усім тэатральная творчасьць мастацтва. Хіба ня знойдзецца сёньня такой беларускай вёскі, дзе-б ня было да гэтага часу ніводнае вечарыны са спэктаклем, ладжаным у большасьці выпадкаў мяйсцовымі сіламі.

Прыклад у Вільні ў 1910 г. паслужыў гэткім чынам пачаткам цэлае культурнае акцыі, якая з боку нашае інтэлігэнцыі патрабуе наданьня гэтай акцыі пляновасьці і арганізацыі, каб справа беларускіх спэктакляў, якая сёньня з'яўляецца адзнакай праявы нацыянальнае сьвядомасьці, не рабілася абы як разьбітымі сіламі мяйсцовых аматорскіх колаў, але каб гэтак важная для ўсіх справа была пастаўляна на належным ёй грунце, больш таго, каб яна была закладзена ў аснову ўсяго беларускага культурнага будаўніцтва.

* * *

У 1921, 1922 і 1923 гадох у Вільні існаваў Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток, у якім сапраўды былі згуртованы найвыдатнейшыя артыстычна-мастацкія сілы. На сцэне мы маглі бачыць што тыдзень гэткія сілы, як Ф. Аляхновіч, Л. Родзевіч, Шчасны, Курыль і ін. Можна сказаць, што гэты час быў перыёдам найбольшага сцэнічнага развою, дзе побач з артыстамі-фахоўцамі выступалі і самі аўтары твораў.

У той час віленскае грамадзянства было збалавана гэтымі штотыднёвымі спэктаклямі

## Колькі немцы плацяць у год кантрыбуцыі.

Даглядчык хаўрусьнікаў над Нямеччынаю Жыльбэрт акрэсьліў 4-х гадовую рату нямецкіх рэпарацыйных плацяжоў у суме 1,750 мільёнаў залатых марак, а 5-ю рату ў суме 2,700 мільёнаў мар. (1 марка = 2,13 зл.).

## Падзеі ў Кітаі.

Гэнэрал Шэк пасьля захопу Пэкіна ўступіў з займаемага становішча камандуючага Палуднёваю арміяй, заявіўшы, што захопам Пэкіна споўніў даручанае яму нацыянальным урадам заданьне. Яго мейсца мусіць займе хрысьціянскі гэнэрал Фэнг, якога падтрымоўваюць бальшавікі. У Мукдэні 11 чэрвеня ўвечары выбухла некалькі вялікіх бомбаў, скіраваных проці японскіх прадстаўнікоў. Аднак гэтыя выбухі не пацягнулі за сабою вялікіх ахвяраў у людзёх.

## Сьмерць Чанг-Тса-Лінна.

Японскія газэты паведамляюць аб сьмерці Чанг-Тса-Ліна, які быў найбольшым ворагам бальшавікоў у Кітаі.

## Лёс гэн. Нобіле.

Нарэшце аканчальна удалося выясьніць, пры помачы радыё-тэлеграфу лёс экспэдыцыі гэн. Нобіле на аэрастаце „Італія". Аказваецца пры спуску аэрастату на плаваючую льдзіну каля вострава Пэтэрмэна ў 30 кілямэтрах на поўнач ад зямлі Франца Іосіфа адарвалася гандоля, у якой знахадзіўся гэн. Нобіле і 8 вучасьнікаў экспэдыцыі. З рэштаю экіпажа 7 чалавек аэрастат праляцеў каля 40 кілямэтраў у ўсходнім кірунку і спусьціўся на другую льдзіну, разьбіўшыся ў шчэпкі, пры чым два чалавекі былі раняны, аднаму з якіх прышлося адняць нагу. Есьць яшчэ трэцяя група, складаючаяся з 3 асобаў, якая робіць высілкі прыстаць на льдзіне да сушы. З Швэцыі высланы 4 ратунковых аэрапляны.

## Пералёт Ціхага акіяну.

Аўстралійскі лётчык Сміт праляцеў з Амэрыкі да Аўстраліі праз востраў Фіджы, зрабіўшы 7,300 міль. Сміт за гэты пералёт атрымаў нагараду ў 25,000 даляраў.

# Тутэйшая хроніка.

— **Зьезд Старостаў.** 11 чэрвеня ў ваяводзтве адбыўся пад кіраўніцтвам Віленскага Ваяводы п. Рачкевіча зьезд Старостаў Віленскага Ваяводзтва. На зьездзе абгаварываліся справы адміністрацыйныя, бясьпекі, гаспадарчыя, самаўрадавыя і нацыянальных меншасьцяў. Пасьля зьезду п. Ваявода выехаў да Варшавы, дзе між іншым зрабіў справаздачу аб гэтым зьездзе.

— **З працы Бел. Пасольскага Клюбу.** У часе апошніх паседжаньняў Сойму паслы Бел. Пас. Клюбу падалі некалькі сьпешных прапазыцыяў, як напрыклад: у справе адназовай дапамогі для пацярпеўшага ад стыхійных выпадкаў жыхарства Віленскага і Навагрудзкага ваяводзтваў, прапазыцыя ў справе даваньня караў за нелегальныя пасевы табакі і інтэрпэляцыя ў справе тасаваньня зборнай адміністрацыйнай кары да жыхараў в. Зарачы, Браслаўскага пав.

---

і мала ацэньвала сваіх карыфэяў тэатральнае справы. Падтрыманьне звонку ня было і Урад Муз-Др-Гуртка як ня біўся як ня траціў на'т і свае асабістыя сьродкі, каб утрымаць гэтае, можна сказаць, каштоўнае прадпрыемства, аднакжа ня ўтрымаў і Муз-Др-Гурток распаўся. Воляй лёсу яговыя тэатральныя сілы разсыпаліся хто-куды. Л. Родзевіч і Ф. Аляхновіч выехалі ў Менск, Шчасны вандруе да гэтага часу з Расейскай трупай, Курыль працуе на правінцыі у вандроўнай трупе Акружной Рады „Прасьветы," а іншыя — хто ў Празе, хто ў Коўне.

* * *

Пісаць сёньня аб патрэбе арганізацыі ў Вільні заўсёднага тэатру, ўсё роўна што стукацца і ламацца у адчыняныя дзьверы. Няма сёньня гэткае асобы, якая ве разумела-б гэтае патрэбы, але няма нажаль і такое асобы, якая аўтарытэтна, а яшчэ важней „беспартыйна" падыйшла-бы да гэтае справы. Бо „сельсаюзнік", напрыклад, гаворачы аб тэатры, думае пры гэтым, што найлепш было-б, каб гэтай справай кіраваў Інстытут Гаспадаркі і Культуры, а радыкал ня хоча нічога бачыць па за Т-вам Беларускае Школы і г. д.

* * *

Дзе-ж выхад з гэтага? Нельга-ж пагадзіцца ў канцы—канцоў з тым, што беларусы ў Заходняй Беларусі ня могуць ніяк знайсьці супольнае мовы нават і ў такіх, нічога супольнага з палітыкай ня маючых, справах, як тэатр, коопэратыў, прытулак, гімназія, і г. д.

Паводле нашае думкі справу гэтую можна парушыць з мейсца толькі наступным чынам:

У пэўны пекны дзень адбываецца, напрыклад, ў Вільні адкрыты для ўсіх сход, з мэтай выбараў хаця-б пяці асобаў дзеля апрацоўкі статуту новага Т-ва Беларускага Тэатру. Сход гэты склікае асоба не належачая да ніякай партыі.

Да гэтага Т-ва могуць і павінны належыць ўсе беларусы бяз рожніцы веры, партыйных

**З жыцьця Акружной Рады „Прасьветы“.** У вёсках Пукалы, Зевіна і Мардасы—Вялейскага пав., з‘арганізаваліся і паўсталі да жыцьця 2 аддзелы „Прасьветы“.

У вёсцы Ваўкаўшчына, Маладэчанскага павету, аддзел „Прасьветы“ пераарганізаваўся і да ўраду засталіся выбранымі. Старшынёй—Янка Купрыновіч, сэкратаром Алекс. Казёл.

Акружная Рада „Прасьветы“ паведамляе тыя гурткі „Прасьветы“, якія яшчэ не атрымалі бібліатэчак, што ёю ужо заказаны бібліатэкі ў кнігарні С. Станкевіча, шыкуюцца і ў хуткім часе будуць разасланы па гуртках.

— **Актуальная справа.** Як нас інфармуюць сярод віленскага грамадзянства ідуць гутаркі, а на‘т і рыхтаваньні да злучэньня 2-х істнуючых у сучасны мамэнт Беларускіх Нацыянальных Камітэтаў у адзін і перавыбараў іхніх складаў.

Як ведама, у свой час, калі б. Бел. Пасольскі Клюб разьбіўся на 2 партыі і віленскае грамадзянства падзялілася на групы, у выніку чаго стварыліся 2 самастойныя Нацыянальныя Камітэты, ня прызнаючыя адзін-аднаго. Гэтакім чынам справа нашага агульнага нацыянальнага прадстаўніцтва ў Вільні да гэтага часу выглядала зусім не паважна. І калі цяпер сапраўды прадбачыцца аздараўленьне ў гэтым кірунку, дык пачын гэты можна толькі вітаць, але з пажаданьнем, каб будучае наша нацыянальнае прадстаўніцтва сапраўды было-бы агульна-беларускім прадстаўніцтвам і складалася-бы з прадстаўнікоў усіх палітычных думак і кірункаў, як гэта было ад 1919 г. да 1924 г.

Справы нашыя ад гэтага нічога ня страцяць, а толькі выграюць.

— **З Т-ва Беларускае Школы.** 6 траўня у Глыбокім адбыўся агульны сход сяброў Т-ва Беларускае Школы, на якім выбрана новая Акружная Управа у наступным складзе: гр Я. Аніськовіч —старшыня, М. Багдановіч —віцэ старшыня, С. Майсяёнак — скарбнік і Ф. Яркавец — сэкратар. На сходзе быў прысутны прадстаўнік Галоўнае Управы Т-ва гр. Шырма, які зрабіў даклад аб працы Т-ва. 13 траўня адбыўся паветовы з'езд Т-ва Беларускае Школы у Вялейцы, на якім былі прысутнымі б. сэнатар Уласаў і пасол Ф. Валынец. Выбрана Акружная Управа ў наступным складае: пасол Ф. Валынец — Старшыня, Я. Качаргін і С. Пагуда — віцэ старшыня, Усьціновіч— сэкратар і В Субач — скарбнік. Зь'езд прыняў рэзалюцыі: дамагацца поўнага стасаваньня языковае ўставы, скасаваньня двуязычных школаў, назначэньня ў беларускія пачатковыя школы беларускіх настаўнікаў, адкрыцьця беларускай вучыцельскай сэмінарыі, адкрыцьця беларускай гімназіі у Вялейцы, наданьня матуральных правоў беларускім гімназіям і матэр'яльная дапамога ім і дапамогі Т-ву Беларускае Школы. Апрача таго вынесены пратэст проціў выдаленьня вучняў з Навагрудскай гімназіі. Пасьля З,езду адбыўся спэктакль.

— **Адозва Беларускага Навуковага Т-ва.** Беларускае Навуковае Т-ва выдала адозву, у якой заклікае усіх беларусаў ў краі і на эміграцыі складаць ахвяры на будову ў Вільні Дому Беларускае Культуры. Ахвяры трэба кіраваць у Беларускі коопэратыўны Банк (Віленская 8) на рахунак. № 17.

— **Уступныя экзамены ў Віл. Белар. Гімназію.** 21-га 22-га і 23 чэрвеня адбудуцца уступныя экзамены у II — VII клясы Віленскай Беларускай Гімназіі. Экзамены для жадаючых уступіць у першую клясу гімназіі адбудуцца 27-28 чэрвеня б. г.

— **З Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** Цэнтральны Урад Інстытуту ладзіць 22-га чэрвеня зборку ахвяр на беларускае школьніцтва.

---

паглядаў ці сацыяльнага становішча. Іншымі словамі, каб быць прынятым у Т-ва, досыць толькі злажыць заяву і уплаціць складку, а ня трэба прыняцца у сябры шляхам пастановы управы ці агульнага сходу.

Мэтай Т-ва будзе гуртаваньне артыстычных сілаў, навучаньне іх, і арганізаваньне заўсёднага беларускага тэатру з сядзібай у Вільні, а абшарам дзейнасьці — Заходняя Беларусь. Пасьля таго, як статут на гэтакіх падставах апрацаваны будзе гатовы, камісія склікае новы агульны сход, па якім ўсе прысутныя падпісваюцца пад статутам як закладчыкі Т-ва і статут ідзе на зацьверджаньне.

Вось тыя прынцыпы, захоўваючы якія можна зрабіць беларускі тэатр:

1) агульна нацыянальнай уласнасьцю, а не прадпрыемствам аднае партыі;

2) зрабіць яго сапраўднай артыстычнай вартасьцю, а не аматорскім выпадкам;

3) зрабіць яго ня толькі дзеля таго, каб віленскія беларусы час ад часу зьбіраліся паглядзець тую ці іншую п‘есу, але перадусім каб пабудзіць новыя сілы для творчасьці, адным словам зрабіць яго цэнтрам культурнага будаўніцтва.

* * *

Задачай прэсы з‘яўляецца ня толькі крытыка істнуючага, але таксама (і гэта галоўным чынам) шуканьне новых шляхоў для палепшаньня крытыкуемага становішча ці чыну.

Мы ўжо раз выступілі з канкрэтнай прапазыцыяй арганізацыі сувязі беларускіх журналістых і пісьменнікаў.

Голас наш на жаль застаўся „голасам вопіючага ў пушчы“. Відаць няма яшчэ гэтакіх абставін (выражаючыся мягка), пры якіх людзі аднае нацыі маглі-б спакойна сядзець адзін каля другога і захоўваць звычайную прызваітасьць.

Але мы ня трацім надзеі і веры ў тое, што хвароба гэтая не заўсёдная, а часовая; што яна з‘яўляецца не сваей, а занесянай, і як усякая эпідэмія ў канцы канцоў пройдзе.

*Вуэс.*

**— Беларускі канцэрт.** З прычыны першых угодкаў заснаваньня Беларускага Народнага Тэатру Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Вільні у суботу 16 чэрвеня у кв. Інстытуту (Вострабрамская 8-1) адбудзецца Беларускі канцэрт.

**— Украінская вечарына у Белалускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры.** 9 чэрвеня у салі Бел. Інст. Гасп. і Культуры адбылася украінская вечарына, ладжаная украінскім студэнскім Саюзам у Вільні з прычыны 67 ўгодкаў сьмерці вялікага песьняра украінскага Тараса Шэўчэнкі. У праграму ўваходзіла: хор, дэклямацыя, і камэдыя са скокамі і сьпевам. Саля была паўнюсенька. Шмат было і беларусаў.

**Выяўленая правакацыя.** У апошнім нумары „Грамадзяніна“ мы пісалі, што ня ведама кім была дадзена заценка ў польскай газэце „Dzieńnik Wilenski“ аб тым, быццам 14 сяброў Т-ва „Бел. Хатка ў Вільні“ пастанавілі выключыць п. Т. Вернікоўскага і ягоны „Урад“ з Т-ва і „аддаць іх пад суд“.

Мы ў артыкуле „Няма спакою“ і ў „паштовай скрынцы“ прасілі гэтых 14 сяброў выявіць сваё прозьвішча, „бо інакш“, — як пісалі мы—„гэта будзе выглядаць правакацыей тых, хто ва вашых імёнах клапоціцца аб асабістых інтэрасах“.

Гэтак і сталася.—Прайшло больш тыдня, а аб 14 сяброх ні слуху-ні духу. Відаць 14 сяброў самі зразумелі, што сталіся ахвяраю правакацыі.

**— Занепакоіўся...** Калі мы пісалі, што пасьля А. Паўлюкевіча ў „Хатцы“ пазасталіся даўгі і акрэсьлялі суму, дык ён не паверыў „Грамадзяніну“ і паляцеў спраўджаць у падатковыя аддзелы. Але пасьля справак здаецца яшчэ больш занепакоіўся.

**— Шыла змяшка вылазіць...** Ініцыатар правакацыйнай заценкі у газ. „Dziennik Wilenski“ нарэшце выяўляецца. Гэта А. Паўлюкевіч, які у газэце „За Свабоду“ сваім пісьмом сьцвярджае, што „ўсё гэта праўда.“ Хай гэтая „праўда“ пазастаецца пры ім, як пры „Хатцы“ пазасталіся ягоныя даўгі, а суд ўжо вырашыць, ці пазасталыя даўгі ёсьць ягоны перабор грошаў, ці вынік ягонага гаспадараваньня. А што „свае людзі“ прызналі ягоны разрахунак з „Хаткай“ быццам правідловым, дык гэта справа прыватная іхняя-кумпанейская.

А „дутыя ці ня дутыя“ паданыя п. Вернікоўскім лічбы даўгоў, пазастаўляных А. Паўлюкевічам, дык—гэта высьвятляе Рэвізыйная Камісія, якая па аканчаньні сваей працы апублікуе падрабязны адчот у прэсе для агульнага ведама.

**— Сьмерць гр. Арэхвы.** 9 чэрвеня б. г. памёр у Вільні вядомы беларускі каапэратар гр. Лука Арэхва. У 1919 годзе памёршы належаў да Беларускай Вайсковай Арганізацыі, а пасьля да самае сьмерці працаваў як інструктар спачатку ў Віленскім Саюзе Каапэратываў, а пасьля яго злучэньня з Сувязьзю Спажывецкіх Т-ваў Польшчы ў Віленскім аддзеле гэтага Т-ва.

**—Сьмерць Антона Чарапука.** У Амэрыцы памёр прадстаўнік каталікоў беларусаў на Эўхарыстычным кангрэсе у Чыкаго Антон Чарапук — бацька вядомага беларускага дзеяча Янкі Чарапука.

**— Справа кс. Шутовіча.** 8 траўня ў Браславе адбыўся суд выязной сэсіі Віленскага Акружнога Суда над вядомым беларускім дзеячом кс. Шутовічам. Дзеля таго, што сьведкі з боку абвінавачаньня не з'явіліся ў Суд, справа адложана.

**— Справа арыштаванага пасла Стагановіча.** 8 чэрвеня у Сойме разглядалася сьпеш-

## „Зязюльчыны сьлезы“.

(ЛЕГЭНДА).

1.

Старэтнага, даўнага часу,
Ніхто ўжо ня помніць аб ім,
На сьвеце, ў староньцы мо' й нашай,
Жыў бедны-прабедны Максім.
Меў хатку сякую-такую,
Вуглы хоць яе падпіраў,
Каня-ж ці кароўку якую
Максіму мець Бог не даваў.
На дзетак дык Бог ня скупіўся,
Знаць беднага моцна любіў,
Хоць позна Максім той жаніўся—
Пяцёра яму падарыў.

Была у Максіма й сястрыца,
Багачка (ей лёс паслужыў),
Жыла у харомах дзявіцай
Скупою, заздроснай на зьдзіў.

2.

І здарыўся год неўраджайны,
Прапалі хлябы на палёх,
Максім, хоць у працы старанны,
Зімой перабіцца ледзь змог.
Вясною-ж... ў труну хоць кладзіся,—
Галодная енчыць дзятва..
Ну проста ідзі ды тапіся,
Бо стравы, на‘т лыжкі няма.
«Куды йсьці, за што ухапіцца...
Па вёсках?—Усюды бяда!..».
Ад думак Максіму ня сьпіцца,—
І ўспомніў нарэшце—«Сястра!»

ная прапазыка беларускіх паслоў аб ўстрыманьні сьледства ў справе арыштаванага ў Наваградку пасла Стагановіча і пасла Грэцкага. У часе дыскусіі прамаўлялі паслы Дварчанін, Падоскі (Безп. Блёк Супр. з Урадам) і віцэміністр справядлівасьці Цар. Пастаноўлена адаслаць прапазыку як сьпешную у рэгуляміновую камісію Сойму.

**— Суд над б. дырэктарам Віленскай Гімназіі Р. Астроўскім.** На 28 чэрвеня вызначана у Віленскім Акружным Судзе справа гр. Астроўскага, нядаўна апраўданага у працэсе Грамады. Абвінавачываецца гр. Астроўскі у чынным сапраціўленьні ўладам у часе, калі апошнія займалі частку памешканьня Віл. Бел. Гімназіі.

**— Звальненьне з турмы б. рэдактара „Сахі“.** У мінуўшым тыдні быў зволвнены з турмы на Лукішках б. рэдактар беларускае сельска-гаспадарчае часопісі „Саха“ — п. Ул. Павалковіч, абвінавачаны ў прэсавай справе.

Сьледства спынена па адсутнасьці матэваў абвінавачаньня.

**— Лік дактароў беларусаў павялічваецца.** У суботу 10 чэрвеня ў Віленскім унівэрсытэце адбылася ўрачыстасьць—промоцыя на доктара гр. Грабінскага Балеслава, сябры Бел. Студ. Саюзу і Цэнтр. К-ту Хр. Дэмакрапы. Грам. Грабінскі па сканчэньні унівэрсытэту атрымаў тытул доктара ўсіх лякарскіх навук.

**— Асуд рэдактара „Сял. Нівы“.** Віленскі Акружны Суд засудзіў 4 чэрвеня рэдактара „Сялянскай Нівы“ Герасімчука на 400 зл. штрафу з заменаю 2 мес. турмы за артыкул „Першае Беларускае Соймавае прадстаўніцтва“, які быў надрукаваны ў „Сял. Ніве“ № 92 з 1927 года.

**— Канфіскацыя.** 13 чэрвеня быў канфіскаваны № 4 радыкальнае часопісі „Зара працы“.

**— Чарговы нумар „Бел. Раднага“.** У суботу 23 чэрвеня выйдзе чарговы нумар Беларускага Раднага.

**— Сьвежы нумар „Маланкі“.** Выўшаў з друку чарговы № 7 гумарыстычнае часопісі „Маланка“. Зьмяшчае ў сябе пекны верш Янкі Купалы „Ня ўсе дома“ і шмат даўціпных вершаў, апавяданьняў і анэкдотаў. На апошняй старонцы знаходзім абвестку першага беларускага бюро парадаў, пісаньня просьбаў і г. д., якое месьціцца на Гэтманскай вул., № 2.

**— Будова калейкі Варапаева — Друя.** Міністэрства Камунікацыі перадала у разпараджэньне Віленскай чыгуначнай дырэкцыі 15 мільёнаў зал. на будову вузкакалейкі Варапаева-Друя. Будова пачнецца у гэтых днях.

**— Будова новых станцыяў.** Віленская чыгуначная Дырэкцыя ў гэтым годзе мае збудаваць новыя будынкі на станцыі у Лідзе, Баранавічах, Янаве, Вацэвічах, Гарадзеі і Паставах.

**— Выстаўка у Баранавічах.** У верасьні у Баранавічах мае адбыцца ральніча—прамысловая выстаўка.

**— Ахвяры бУры.** Увечары 11 чэрвеня пасьля ўпальнага дню над нашым краем пранямлася страшная бура, прычыніўшая шмат пажараў і шмат шкоды. У Вільні між іншым пярун ударыў у меставую электрычную станцыю, пазбавіўшы места ў працягу 2 гадзін сьвятла.

У гміне Ржэшаньскай в. Вогуба і засьц. Навіна згарэла некалькі будынкаў. У в. Брудна пярун забіў у доме Ячнік 2 дзяцей, у в. Пшэлане, Аранскай гміны згарэла 16 будынкаў. У раёне Н.-Трок згарэла 4 кілямэтры лесу.

У в. Алсокі, распаложанай на берагу возяра, дождж размыў гаць і затапіў вёску, 12

---

Пайшоў ён худзенькі, благенькі,
Аж ветрам ківае яго.
Вясьніца і радасьць ва ўсенькім,
Усюды здароўе, жыцьцё.

І з думкай «Сястра паратуе»
Ён крочыць уперад жвавей.
«Мо скупасьць забудзе ліхую
Для бедных галодных дзяцей».

Прыйшоў той Максім да сястрыцы.
Прад ганкам харомаў ён стаў,
Аб горы і цяжкай часінцы
Казаў ён праз сьлёзы, ўздыхаў·

Для дзетак галодных ён хлеба
Прасіў і маліў у сястры
І кляўся на Бога і неба,
Што працай адробіць даўгі.

У строях прыгожых, багатых
На ганак свой выйшла сястра—
Зірнула на беднага брата
І моўчкі ў харомы пайшла.

Максім не адходзіць, чакае,
І сэрца яго тукаціць ..
Сястра вось акно адчыняе—
Хоць крышку яго надарыць.

І кажа сястрыца: «Прапалі
Ад сьвірна і клеці ключы,
І збожжа сабе не дасталі...
Дамоў, брат, шчасьліва ідзі!»

І тут-жа вакно зачыніла
І з боку дзе бедны стаяў,
Ў пакоях агня не паліла,
Хоць брат аж пад поўнач стаяў—.

дамоў зусім зьнішчана. Утанула 3 дзяцей. Гэтак сама вялікія страты прычыняны ў в. Вадоміч.

Наагул страты ў цэлым краі вялікія. Шмат мастоў і дарог з грэблямі размыта і папсавана. Большасьць згарэўшых гаспадарак не застрахована і пагарэльцы апынуліся ў бязвыхадным становішчы. Патрэбна дзяржаўная і грамадзкая запамога.

— **Тэлефанічныя гутаркі з Менскам і Масквой.** Пачынаючы ад 5 чэвеня прыватныя асобы змогуць на ст. Стаўбцы гутарыць па тэлефону з Менскам і Масквой. 3-х мінутная гутарка з Менскам каштуе каля $3^1/_2$ залатых, а з Масквой каля 12 залатых. У начы цана меншая на $3/_5$ звычайнае тарыфы. На пошце у Стаўбцах будзе знахйдзіцца кніга абанэнтаў Менску і Масквы.

# Карэспандэнцыі.

## Гісторыя без назову.

(в. Воўкаўшчына, Маладэчанскага пав.).

У нас на нашых „Крэсах Усходніх" часта здараюцца такія выпадкі, што і сам ня ведаю, як іх назваць. І вось мушу падаць адзін такі выпадак, каторы здарыўся са мною ў нядзелю 27 траўня г. г.

Ідучы дамоў з мястэчка Краснага ў $9^1/_2$ гадзіні ўвечары, на паўдарогі раздаўся выстрал і куля з ружжа праляцела каля самых маіх вушаў. Я астанавіўся і пачуў за сабой голас: „стой!". І яшчэ пачуў трэск, як нехта за мной ззаду ізноў зараджае ружжо. Я мусіў стаяць і да мяне падыйшоў урадавы лясьнік Сай і пытая, хто так позна ходзе. Я яму адказаў, што яшчэ ня так позна, як ён думае, а да таго і дзень сьвяточны.

На маё запытаньне, чаму ён робіць такія манэўры, Сай адказаў, што ў яго на сенажаці часта ўночы пасуць коні. Дык ён ходзіць пільнаваць, і ходзячы каля лесу, выстраліў.

Дык вот, браце Сай! Парадзіў бы я табе, кабы ты ляпей пільнаваў урадавага лесу і сваей сенажаці, а не хадзіў-бы ўночы па дарозе на чэцьверць кілямэтру ад лесу і не затрымліваў людзей, каторыя ідуць з кірмашу. А можа часам ня ўмеючы вучышся страляць? Дык парадзіўбы ня ўночы, а днем і ў такім мейсцы, дзе людзі мала ходзяць, а не на дарозе.

*Падарожны.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Крываўка (крывавая мача).

Хвароба гэта найчасьцей здараецца па такіх месцах, дзе ёсьць шмат лесу. Зьяўляецца яна галоўным чынам з раньняе вясны, у красавіку—траўні м-цах, калі яшчэ сьцюдзёна і калі толькі пачынаюць ганяць жывёлу на пашу ў лес і па розных кустох.

Больш усяго гэта немач нападае ў нас на кароў і выяўляецца тым, што захварэўшая

---

І доўга і цяжка таміўся
Максім прад харомам сястры,
А потым аслаб і зваліўся
На месцы стаптанай травы.
Сьвітаньня вясёлай музыкай
Яшчэ жаўручок ня вітаў—
Ад голаду й крыўды вялікай
Максім прад сьвятліцай сканаў.
Так, літасьці ў сэрцы ня мела
Да роднага брата сястра—
Худое Максімава цела
Сьмерць прытуліла адна.

3.

На заўтра, раненька ўстаўшы,
Зірнула ў ваконца сястра—
Дзе ўчора Максім быў стаяўшы,
Там дзіўна ляжыць ён сяньня.
Ляжыць. Галава на сьвятліцу
Павернена. Зубы відаць.
І вочы яго на сястрыцу
Шырокія страшна глядзяць.

«Прачніся, Максім», так гукнула
Скупая сястра праз вакно—
У брата-ж каб-хоць уздрыгнула
Павека над вокам яго.

І сэрца ў сястры падняло́ся,
З сьвятліцы да брата бяжыць,
І мёртвае цела калоціць
І, быццам, ад болю крычыць:

«Максімка, браточак, прачніся,
Прачніся, знайшла я ключы»!
Дарэмна-ж над братам нясьліся
Жахлівыя крыкі сястры.

жывёла пачынае мачыцца кроўю. Па некаторых месцах крываўка сустракаецца і на конях. Таксама яна можа здарыцца і на авечках.

Раней лічылі, што крываўка залежыць ад таго, што жывёла дзе-небудзь у лесе або ў кустах наядаецца смаляное пашы і што быццам смала раздражняе мачавы пузыр, праз што адтуль і пачынае выцякаць кроў разам з мачою.

Цяпер напэўна дазнана, што прычына немачы не смала, а асаблівыя жывыя мікробы (малюсенькія тварэньні, чужаеды, якіх прыкмеціць можна толькі праз асобую прыладу-мікраскоп). Гэтыя мікробы пападаюць карове ў кроў, множацца там, губяць у яе чырвонакроўнікі (маленькія чырвоныя цельцы крыві), ад чаго жывёла пачынае хварэць выпускаючы краску з крыві разам з мачой. Вось чаму аб гэтакай карове ў нас часта гавораць, што яна, кроўю пачала мачыцца).

Між тым гэты чужаед-мікроб навука заве „піроплазмаю", ад чаго і хвароба па вучонаму завецца „піроплазмос".

Як-жа трапляе піроплазма ў кроў карове?

А вельмі проста—праз кляшчукоў.

Кожны пэўна, хто толькі назіраў за жывёлаю, бачыў на скуры ў кароў, у авечак, сабак і інш. такіх кляшчукоў, што сядзяць моцна ўпіўшыся на жывёле, калі яна варочаецца з лесу або з кустоў, кляшчукі гэтыя сядзяць у каровы каля вымя, на мордзе, на павеках і вушох, або на шыі і нават па ўсей скуры і цягнуць з яе кроў.

Калі карова хворая і „мочыцца кроўю", а знача мае ў сабе гэтага чужаеда, тады разам з кроўю трапляе ў кляшчука і гэты чужаед. Кляшчук такі, калі сядзе ізноў на здаровую карову і ўва'ецца ў яе, дык перадасьць карове гэтага чужаеда і карова заразіцца праз кляшчука і пачне хварэць крываўкаю.

Часамі здараецца, што крывавая мача зьяўляецца ў каровы і зімой у хлеве. Гэта бывае, калі ў хлеў ўносіцца на падсьцілку ліст або сена заражонае кляшчукамі. Пакуль кляшчукі на марозе, яны ня выяўляюць дзейнасьці, а ў цёплым хлеве пачынаюць ажываць, прыстаюць да жывёлы і заражаюць яе.

Першыя 5 дзён захварэўшая жывёла дрэнна сябе адчувае: яна перастае есьці, стаіць смутная, пачынае трасьці яе трасца, гарачка падымаецца да 40-41оЦ; жывёла слабее, ходзіць хістаючыся, перш бываюць запоры, а потым ляксуе (гоніць). На другі дзень часта зьяўляецца і галоўная адзнака—хворая пачынае мачыцца „кроўю".

У лёгкіх выпадках праз 5 дзён мача сьвятлее, гарачка спадае і жывёла патроху папраўляецца. Наадварот, у цяжкіх—яна праз 4-7 дзён прападае. Часамі хвароба зацягваецца і карова доўга мочыцца кроўю.

*Лякарства* пэўнага пакуль што няма яшчэ ад гэтай хваробы, бо трудна знайсьці такое зельле, якое-б забівала ў крыві толькі чужаеда і ня шкодзіла-б самой жывёле. Вось чаму лячэньне павінна быць пакіравана так, каб дапамагаць жывёле самой перамагчы гэтую хваробу. Дзеля гэтага захварэўшую жывёлу ня трэба выганяць на пашу, а лепш трымаць у хлеве ў пэўным спакою; палепшыць яе кармленьне, даваць найлепшае сена, патроху аўса і дробна нарэзанай морквы; уволю паіць чыстай вадой, падбаць і аб чыстым паветры. Захварэўшую жывёлу наперш трэба змыць крэалінавай вадою (10 лыжак крэаліны на паўвядра вады), ад якое кляшчукі, што сядзяць на скуры, чумеюць і гінуць. Калі крэаліны няма, можна змыць моцна салёнай вадою. У сярэдзіну хворай даюць таксама крэалін або лізол, ці карбоўку (бяруць чайную лыжку лякарства, паўшклянкі гарэлкі і 2 шклянкі вады—разьмя-

---

Ляжыць. Галава на сьвятліцу
Павернена зубы відаць.
І вочы яго на сястрыцу
Шырокія страшна глядзяць.

4.

Максім не прачнуўся, хоць колькі
Над ім ні крычала сястра,—
І сталася дзіва, як толькі
Да трупа прыпала яна.

З сястры зьніклі строі, а цела
Прыбралася пёрамі ў міг,
А з рук яе пухкіх і белых
Вось крылы зрабіліся ў міг.

Прыгожыя, круглыя вочы
Раскрыліс шырока ў сястры
І тварык зьмяніўся дзявочы
На чорны дзюбок той, таўсты,

Узмах і другі—паднялася
Над хорамам птушкай сястра
І з крыкам над ім павілася
І ў лес паляцела яна.

І ў лесе, дзе рэдка хто ходзіць,
З тых пор адзінокай жыве
І дзетак ніколі ня водзіць
І нават гнязьдзечка ня ўе.

Ад дзерава к дрэву лятае
І з месца на месца яна,
Як быццам кагосьці шукае
Зьмяніўшыся птушкай сястра.

Прысядзе яна дзе хвілінкай,
Дык сумна і глуха крычыць,

шаць і даваць па лыжцы раз 6 у дзень). Радзяць таксама сьвінцовы цукар (па паўгарбатнай лыжцы на вядро вады) у пойла, асабліва калі жывёла ляксуе (гоніць). Пры затрыманьні калу даюць любэрскую (глаўбераву) соль па 2-3 лыжкі раз 2-3 на дзень. Некаторыя хваляць такое лякарства: робяць моцны адвар хіннае кары ($1^1/_2$ ф. кары на 10 бутэляк вады), дадаюць 40,0 тоніну і 15,0 салянога квасу і дадаюць хворай па паўбутэлькі рана і ўвечар. Замест хіннае кары можна ўзяць дубовую або вярбовую карову. Таксама робяць уколы і прышчэпкі, але гэта лячэньне вымагае адпаведных тэхнічных умоў і дзеля гэтага не пашырана.

*Як засьцерагчы жывёлу ад крываўкі.* З гэтаю хваробаю можна змагацца толькі супольнымі сіламі: вэтэрынары—праз лячэньне, а сяляне—належным даглядам за сваею жывёлаю:

1) Вясною ня можна выпускаць кароў у лес, або пасьціць па кустох, дзе ёсьць шмат кляшчукоў.

2) Наагул трэба асьцерагацца пасьвіць кароў па ўзьлесьсю і па балотных сенажацях.

3) не падсьцілаць каровам замест саломы лясною падсьцілкаю з хваі або з апаўшага лісту.

4) Старацца асушаць балотныя сенажаці дрэннамі (глінянымі трубкамі).

5) Часьцей трэба аглядваць скаціну і здыймаць з яе кляшчукоў.

6) Выганяючы на пашу, змазваць жывёлу мешанінаю з дзёгцю і моцнага адвару палыну.

7) Сьцерагчыся набываць жывёлу з такіх месцаў, дзе крываўка існуе, бо хворая жывёла носіць у сабе заразу да 1 году і калі яна пяройдзе на другое месца, дык можа пазаражаць кляшчукоў, а тыя заразіць і кароў.

8) Там, дзе крываўка часта бывае, трэба уважліва абараняць нованабытую жывёлу, бо яна хварэе цяжка і хутка падыхае.

9) Пастух павінен быць паважны і акуратны чалавек. С.

# Кутск жартаў і сьмеху.

## Адкуль бярэцца раса.

Настаўніку школе:— Хто мне можа вытлумачыць, адкуль бярэцца раса?

Уся кляса маўчыць. Нарэшце з апошняй лаўкі адклікаецца малы Янка:

— Я ведаю, пане настаўнік! Зямля гэтак хутка круціцца, што павінна ўспацець.

## Прыветлівы.

Асуджаны, лежачы на гільятыні, агядзеўся на цікавых зварачваецца да ката:

— Пане кат! Паглядзіце, калі ласка, вось тая пані стаіць, а я ляжу. Можа я ей мог-бы ўступіць сваё мейсца?

## Паводле рады доктара.

— Скажы мне, калі ласка, чаму ты як п'еш гарэлку, дык зусім зачыняеш вочы?

— А дзеля таго, што мне доктар сказаў, каб я і не глядзеў на,т на яе.

## Усудзе.

— Судзьдзя. да абвінавачанага: — Цябе суд асудзіў на тры гады катаргі. можа маеш якую просьбу?

— Абвінавачаны: Калі ласка накажыце маей жонцы, каб яна мяне не чакала вячэраць.

## Сынок па бацьку пашоў.

— Судзьдзя да злодзея, які сядзіць у турме:

— Няшчасны, што сказаў-бы твой бацька, калі-б даведаўся, што ты краў?

— Можаце яго папытаць, пане судзьдзя. Ён тут сядзіць у камары обак мяне.

# Паштовая скрынка.

К. **Грышэль.** Ваша карэспандэнцыя будзе зьмешчана ў наступным нумары „Бел. Раднага", які выйдзе праз тыдзень. Пішыце больш, ганарар будзе высланы.

**Я Купрыновіч.** Вашы карэспандэнцыі атрымалі. Выслалі Вам 12 зл пішыце болей.

**С. Белайц.** За апошняе апавяданьне ў „Грамадзяніне" 15 зл. выслалі, прысылайце карэспандэнцыі.

**Сьв. В. Бекарэвіч.** Ліст атрымалі. Пастараемся яшчэ Вам дапамагчы.

**М. Стажкевічанцы.** Калі Вы знаходзіце тыя факты якія паданы у адкрытым лісьце „Грамадзяніна" (№ 10), быццам не адпавядаючымі праўдзе і зварачваецеся да суда, дык зусім дарэмна жадаеце ад рэдакцыі зьмяшчэньня запярэчаньня іто толькі на падставе Вашых слоў, цану якім мы добра ведаем

Як быццам ад болю: «Максімка
Прачніся, знайшла я ключы!»

Далёка-ж крык гэты нясецца
І людзі ўсе чуюць яго,—
Да словаў ніхто-ж не даб'ецца,
Бо толькі ў ім «куку» чутно.

5.

У вечар, калі над лясамі
Ўжо водблезь патухне зусім,
А ўстане туман над лугамі,
Ці дзе над балотам якім—

Зязюлька парой пралятае
Над лугам, балотам тады
І цяжкія сьлёзы рынае
Паміж схаладнеўшай травы.

На месцы-ж, дзе падалі сьлёзы,
За ноч, як дружыць з туманом,
З зямлі вырастаюць прыгожы
Расьлінкі, з шырокім лісьцём.

Чуць сонца зірне на палеткі—
І тыя расьлінкі цьвітуць,
Рабыя іх дзіўныя кветкі
«Зязюльчыны сьлёзы» завуць.

**Улад. Іміцкі.**

22 траўня 1928 г.

жжжжжжж

хаця-бы з Вашага-ж асабістага пашквільнага лісту у газэце „Народ.“ Дык і падавайце ў суд, а німа чаго тут „навадзіць страхі на ляхі.“ Суд лепей разьбярэцца у тым, колькі праўды ці ня праўды ёсьць у паданых „Грамадзянінам“ аб Вас фактах.

Стаўбцы — **Керновічу** — 10 экз. газэты высылаем.

Лошыца — **Ул. Гмыру.** — Газэту высылаем.

Юзэфова — **Шведу.** — Газэту высылаем.

**Ю Сергіевіч.** Кнігу „Malarz“, Вам патрэбную, можаце выпісаць з кнігарні (Rutkowskiego obok Heljosa Wilno, ul. Wilenska). цана 2зл. 50 гр.

**Б. Стагановіч.** Вы просіце даць адказ на Ваш ліст, але не ўказалі адрэсу.

**Г—ну і А—ку.** Калі Вы чыталі папярэднія нумары „Грамадзяніна,“ дык цавінны ведаць, што п. Т. Вернікоўскі ня плаціць даўгоў Паўлюкевіча. Спагадаўшым яго супрацоўнікам у цэнтру ён яшчэ больш застаўся вінен, і то паставілі крыж Можаце зьвярнуцца яа яго безпасрэдня.

— Літоўскае Навучнае Т-ва. Ваш ліст атрымалі. „Беларускага Раднага“ высылаем.

# АБВЕСТКІ.

## Радашкоуская Беларуская Гімназія

### 8-х КЛЯСОВАЯ ГУМАНІСТЫЧНАГА ТЫПУ.

Дырэкцыя Гімназіі гэтым падае да ведама, што прыймовыя экзамены ў Гімназію на 1928-1929 школьны год адбудуцца ў наступныя тэрміны ўва ўсе клясы апрача VIII.

У I кл.—27 і 28 чэрвеня. У клясы II, III, IV, V, VI, VII да 30 чэрвеня.

У I клясу дапускаюцца дзеці ў веку ад $9^1/_2$ да 12; у II ад $10^1/_2$ да 13; у III ад $11^1/_2$ да 14; у IV ад $12^1/_2$ да 16; у V ад $13^1/_2$ да 17; у VI ад $14^1/_2$ 18; у VII ад $15^1/_2$ да 19 гадоў.

Кандыдатам перарослым гэтыя гады патрэбны дазвол Віленскага Куратарыуму.

Дакумэнты: 1) Заява аб прыйме, 2) мэтрыка), 3) пасьведчаньне аб папярэдняй адукацыі для вучыўшыхся ў іншай школе, 4) пасьведчаньне доктара аб паўторным прышчэпе воспы.

Праграмы можна дастаць у канцэлярыі Гімназіі.

ДЫРЭКЦЫЯ ГІМНАЗІІ.



## Наваградзкая Беларуская Гімназія,

### Прыродаматэматычн. тыпу, з чатырмя першымі праўнымі клясамі,

ЗАВЕДАМЛЯЕ АБ НАСТУПНЫМ:

I. Бацькі, якія хочуць аддаць у Гімназію ў 1928/29 годзе сваіх дзяцей, складаюць просьбы аб прыняцьці, далучаючы да іх: 1) мэтрыку нараджэньня, 2) пасьведчаньне аб здароўі,выдадзенае праз школьнага доктара на падставе агляду, 3) пасьведчаньне аб паўторным прышчэпе воспы і 4) апошняе школьнае пасьведчаньне аб навуцы.

II. Астатні тэрмін складаньня просьбаў 25 чэрвеня 1928 г.

ЗАЯВЫ, ўнесяныя пасьля гэтага тэрміну, разглядацца ня будуць.

III. Дырэкцыя мае права дапусьціць да ўступнога экзамену, толькі тых кандыдатаў, якія не перарасьлі на 1 чэрвеня г. г. прадбачаных правам гадоў: да I кл. — 12, II — 13, III—14, IV—16, V—17, VI—18, VII—19 гадоў.

Кандыдатам, перарослым гэтыя гады, патрэбны дазвол Віленскай Куратарыі.

IV. Згодна з новымі правіламі, прыймо ў Гімназію адбываецца нармальна вясною, у восень-жа экзамены могуць быць толькі з дазволу Куратарыума.

Просьбы аб дапушчэньні да экзаменаў васеньніх падаюцца на імя Віленскай Куратарыі праз Дырэкцыю Гімназіі не пазьней 10 жніўня 1928 году.

V. Уступныя экзамены ў I-шую кл. адбудуцца 27 чэрв. ў 8 гадзіне і 28 чэрв. у 10 гадз., у клясы ад II да VII—25, 26, 27 і 28 чэрвеня гэтага года.

VI. Кандыдаты да VIII кл. просьбы аб прыйме павінны падаць на імя Дырэкцыі Гімназіі не пазьней 15 чэрвеня.

VII. Пры Гімназіі маюцца БУРСЫ для вучняў і вучаніц.

**Дырэкцыя Гімназіі.**

## *Ад Адміністрацыі:*

Хто з падпішчыкаў ці Гурткоў «Прасьветы» не атрымлівае газ. «Грамадзянін» даведайцеся на пошце, бо газэта выходзіць і высылаецца кожны тыдзень па суботах.

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1